# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 48 (509) | ГОД X | 28 ЛІСТАПАДА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.


НОВЫЯ ВЕРШЫ

Міхась Машара

## РАССТАННЕ

Расстанне markup розкае бывае —
на дзень, на год і на заўсёды.
Да дрэва болей не вяртае
лісток сарваны непагодай.

Расстанне цяжкае паверце,
з дзяцьмі і з маці і з любімай,
але страшней усякай смерці,
расстанне вечнае з радзімай.

Дубалты, 1.VII.65 г.






**На тэрыторыі ГРН Зубкі засеяна: 19 га пшаніцы, 51 га ячменю, 496 га аўса, 538 га бульбы, 1.073 га жыта.**

**Ёсць каля 2.000 га аблогаў.**

## Непаваротлівасць

Што ўсходняя палова Беластоцкага павета бедная, не трэба замнога тлумачыць.

Смутнае і балючае тое, што тут найгоршы балаган, які даводзіць да болю галавы не толькі беластоцкую павятовую раду, але перад усім, гаспадароў. Безгалоўе ў канцылярыях грамадскіх рад асабліва відаць у падатках. Скажам, у зубкоўскай і ялоўскай грамадскіх радах для **палавіны** гаспадароў вылічана падаткі нядобра! Напрыклад, Аляксею Бажко з Дублянаў налічана падатку на 1.843 злотых, а напраўду павінен быў заплаціць ён 1.715 злотых — на 128 злотых менш. У гэтай вёсцы ялоўская ГРН не зменшыла даходнасці сенажацяў шостага класа, і гаспадары плацілі за іх больш, чым павінны. Марыя Клапатоўская з Ялоўкі атрымала падатковы наказ на 641 зл., замест на 540 зл. Іван Казьмерчык з Ганчароў атрымаў падатку на 444 зл. — замест на 367 зл., і т.п. Цэлая вёска Коматаўцы ў зубкоўскай грамадскай радзе не прыняла падатковых наказаў таму, што вылічаны яны яшчэ паводле старых земляў, якія ўжо даўно перамераны і нанава перадзелены.

Нічога дзіўнага, што гаспадары не заўсёды выконваюць у час ды ў пару свае падатковыя абавязкі, бо бачаць, што некаторыя канцылярысты іх грамадскіх рад таксама моцна не ў парадку перад імі, парабіліся панкаватымі і не цэняць кожнай залатоўкі, за якой крыецца цяжкая праца, пот. Ялоўскаму ці зубкоўскаму пісару сто злотых менш ці сто злотых больш, гэта яму сухая лічба, мёртвы значок на паперы і ўсё! Ён за стозлатовую чырвонку не праводзіць гаравітага дня ў полі, да ламаты касцей.

Вось і даходзіць да таго, што цэлымі месяцамі грамадскія рады не маюць чым плаціць сваім працаўнікам. Падатковыя даўгі ў адной ялоўскай грамадскай радзе, пэўна, перавысяць мільён злотых... У Гарадку таксама. Круглая гэта але як жа сумная лічба! Сведчыць яна аб тым, што нававыбраныя рады чакаюць цяжкія заданні і спатрэбяцца вялікія намаганні, каб палепшыць сітуацыю.

У Ялоўцы на нішто няма грошай. Рамонт мясцовай школы зацягнуўся ў бясконцасць. Майстар не квапіцца спяшаць з работаю ведаючы, што невядома калі заплацяць яму.

**АГРАНОМ...**

...гэта правая рука грамадскай рады. На жаль, гэтая «правая рука» нядбайная, безадказная і гультаяватая.

— Шляпаецца невядома куды! — сказаў аб аграноме адзін гаспадар, які падвозіў мяне з Навасадаў у Шымкі.

Гаспадар злосны.

І не дзіва, бо такая падставовая справа, як планы гаспадарчага развіцця кожнай вёскі ляжаць у запыленых шафах грамадскай рады, нават салтысы наўрад ці бачылі іх у вочы (у Гарадку таксама). Агроном чуў, што дзесьці якісьці гаспадар дапаніў вялікую важнасць вапнаван-

(Працяг на стар. 5)





Белавежа восенню.
УЛАДЗІМІР ПАЎЛЮЧУК
Дуброва. Вяртанне з кірмашу.

перадз'ездаўская ТРЫБУНА

# ПРА МЕСЦА БГКТ

Беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы адрозніваецца ад іншых меншасцей тым, што пражывае яна цеснай масай у выразна акрэсленых этнічных граніцах. Пачынаючы ад нізінаў Бобры гэтая граніца праходзіць паабапал рэчак Бярозаўка і Чорная, і далей на поўдзень паўз беластоцкія прыгарады. Ад мясцовасці Зімнохі пакрываецца яна больш - менш з лініяй чыгункі Беласток — Бельск і шашы Бельск — Сямяцічы. На захад ад гэтай лініі знаходзяцца толькі выспы беларускага насельніцтва — у выпадку вёскі Канцавіна каля Суража ці вёсак Стрыкі, Малешы, Шпакі каля Бранска. Значыць, па-беларуску гавораць цэлыя паветы Дуброўскі, Сакольскі і Гайнаўскі, а таксама ўсходнія паловы паветаў Беластоцкага, Бельскага і Сямяціцкага. Польская размова непадзельна дамінуе ў гарадах і — ужо ў мінімальнай ступені — у некаторых мястэчках як: Кляшчэлі, Нарва, Міхалова.

Адсюль просты вывад, што беларуская нацыянальная спецыфіка не з'яўляецца толькі спецыфікай паасобных чалавечых асабовасцей рассеяных сярод польскай стыхіі, як гэта ёсць у выпадку нацыянальных меншасцей: рускай, украінскай ці яўрэйскай. Беларуская нацыянальная спецыфіка датычыць цэлых вяскова - мястэчковых асяроддзяў, а нават цэлых паветаў!

Усялякія арганізацыі і ўстановы ЗМВ, ЗГП, ЛОК, ЛК, КГВ, ПДК, Аб'яднанне аматарскіх тэатраў, якія дзейнічаюць на тэрыторыі пералічаных паветаў, на жаль, амаль зусім не бяруць пад увагу нацыянальнай спецыфікі беларускіх вёсак і мястэчак. Што горш, аказваецца, іх дзейнасць на гэтых тэрыторыях надта **слабая ўвогуле.**

Нягледзячы на выразную ўстаноўку гэтага пытання ў дакументах Камісіі па нацыянальных справах пры ЦК ПАРП надалей маем дачыненне з абсалютным незразуменнем іх. Асабліва відавочнае гэта ў вясковым аматарскім руху. Напрыклад, у тыпова беларускай вёсцы Грэдалі няма беларускага аматарскага гуртка, ёсць тут падляшскі аматарскі гурток з рэпертуарам характэрным для аколіц Цеханоўца і Седльцаў. Адказны працаўнік Аб'яднання аматарскіх тэатраў да жывога абразіўся на аўтара заметкі ў «Газеце Беластоцкай», дзе пісалася, што ў вёсцы Крывая гэтае Аб'яднанне ўтварыла беларускі аматарскі гурток. Той працаўнік усур'ёз цвярдзіў, што Крывая з'яўляецца курпёўскай вёскай!? Так ужо неяк складаецца, што беларускім гуртком мае права называцца такі гурток, які арганізуе БГКТ.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ) падуманае як дзейнасць энтузіястаў беларускай культуры і яе сімпатыкаў, даволі часта разумеецца як нейкае палітычнае прадстаўніцтва, якое павінна змагацца за «беларускія душы», гуртаваць іх пад сваімі «чыстанацыянальнымі сцягамі». Усе іншыя арганізацыі ды

(Працяг на стар. 2)

### З выступлення на навуковай сесіі ў Беластоку

# ЛЯ КРЫНІЦ ГРАМАДЫ

**Мікалай Арэхва**

У 1925 годзе я быў сакратаром Віленскага акруговага камітэта КПЗБ. Вясной 1925 года мне было даручана ўстанавіць кантакт з Тарашкевічам і Рак-Міхайлоўскім, што я і зрабіў праз Віленскую беларускую гімназію. Хутка ў Вільню прыехаў І. Лагіновіч (Корчык) і з даручэння ЦК КПЗБ абмяркоўваў з імі далейшыя шляхі развіцця беларускага нацыянальна - вызваленчага руху ў Польшчы. У выніку, у чэрвені 1925 года Тарашкевіч выступіў у Сейме і заявіў аб стварэнні самастойнага сеймавага клуба Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Гэты маленькі на першы погляд, здавалася б, нязначны факт стаў пачаткам вялікага палітычнага руху, які ахапіў у сярэдзіне 20-х гадоў усю Заходнюю Беларусь.

Сеймавы клуб БСРГ у сваёй палітычнай лініі адлюстроўваў працэс радыкалізацыі і класавага расслаення беларускага народа, зрываў з панаваўшай тэорыяй нацыянальнага адзінства і імкнення да класавага рэвалюцыйнага саюза з працоўнымі Польшчы.

Новапаўсталы сеймавы клуб БСРГ яшчэ не меў скрысталізаванай праграмы і арганізацыйнага статута. Гэтая справа разважалася некалькі разоў, на Гданьскай нарадзе прадстаўнікоў кіраўніцтва КПП і КПЗБ з кіруючым актывам БСРГ у канцы жніўня 1925 года. Ад КПП на гэтай нарадзе прысутнічаў С. Мертэнс, ад КПЗБ — Л. Аранштам, І. Лагіновіч і я, а ад БСРГ — Б. Тарашкевіч, Шнаркевіч і іншыя. У нарадзе прымалі ўдзел таксама прадстаўнікі брацкай Камуністычнай партыі Савецкай Беларусі — А. Славінскі, В. Ігнатоўскі і А. Ульянаў. На нарадзе абмяркоўвалася справа праграмы, арганізацыйнага статута БСРГ і яе ўзаемаадносін з нацыянальна - вызваленчым рухам у Заходняй Украіне і агульнапольскім рэвалюцыйным рухам, між іншым і з НПХ. Абмяркоўваліся таксама фінансавыя справы, звязаныя з дзейнасцю БСРГ.

Розныя погляды выказваліся ў справе праграмы. Першы варыянт праекта праграмы, які запрапанаваў, здаецца, Тарашкевіч, мала чым адрозніваўся ад камуністычнай праграмы. Мы, прадстаўнікі КПЗБ, з гэтым не згадзіліся. Нам патрэбна была праграма, якая давала б магчымасць стварыць шырокую легальную, нацыянальна - вызваленчую арганізацыю, а не сялянскую нелегальную партыю.

Пасля абмена думкамі было дагаворана, што праграма БСРГ павінна адрознівацца ад камуністычнай праграмы, што яе канчатковая мэта павінна абмяжоўвацца з дзяйсненнем рэвалюцыйна - дэмакратычных задач, аб'ём якіх у Заходняй Беларусі і ва ўсёй Польшчы быў вялікі, што ў ёй перш-наперш належыць прадугледзець дэмакратычныя, частковыя патрабаванні ў палітычнай галіне, у сялянскім, нацыянальным і рабочым пытанні і іншых справах.

Пытанне аб БСРГ яшчэ раз стаяла на IV канферэнцыі КПП у снежні 1925 года і III канферэнцыі КПЗБ у студзені 1926 года. З кіраўніцтва КПЗБ на гэтых канферэнцыях удзельнічалі Аранштам, Лагіновіч, Асіпік, я і іншыя. Да ўдзелу ў іх быў запрошаны таксама і Тарашкевіч. «Па сакрэту» кажучы, я, Радзевіч і Асіпік нават разам з ім нелегальна ехалі туды на адным параходзе з Гданьска да Рыгі, хоць і трымаліся паасобку.

Тарашкевіч на звычайных пасяджэннях канферэнцыі не ўдзельнічаў, але быў у курсе іх рашэнняў. Дзеля абмяркавання спраў, звязаных з дзейнасцю БСРГ, адбылося спецыяльнае пасяджэнне III канферэнцыі. Між іншым быў цікавы абмен думкамі аб назве гэтай арганізацыі. Паасобныя таварышы выказвалі думкі, каб назваць яе: «Сялянска-рабочая Грамада Заходняй Беларусі», але яны не знайшлі падтрымання, бо стушоўвалі нацыянальны беларускі характар БСРГ.

Было пастаноўлена, што КПЗБ актыўна садзейнічае развіццю БСРГ, накіроўвае ў яе гурткі сваіх членаў і арганізуе іх там у свае нелегальныя фракцыі.

Цікавым з'яўляецца невядомы дагэтуль факт падачы Тарашкевічам у ЦК КПЗБ у час працы IV канферэнцыі КПП заявы аб прыняцці яго ў КПЗБ. Яго заява разглядалася на спецыяльным пасяджэнні ЦК КПЗБ. Прыняцце Тарашкевіча ў КПЗБ мы лічылі нашай вялікай палітычнай перамогай. З канспіратыўных меркаванняў было дагаворана, што Тарашкевіч, стаўшы членам КПЗБ, а тым самым і КПП, аднак, не будзе ў Сейме належаць да камуністычнай фракцыі, але будзе падпарадкоўвацца ўсім яе дырэктывам.

ЦК КПЗБ выдзеліў групу кіруючых таварышаў, а ў іх ліку Я. Бабровіча і П. Цвяткова, якім даручыў працаваць у ЦК БСРГ і яе друкарскіх органах і даваць адпаведны палітычны напрамак у іх рабоце. Сотні членаў КПЗБ на месцах узяліся за стварэнне гурткоў БСРГ, працавалі ўнутры іх.

Пасля ўсіх гэтых мерапрыемстваў з вясны 1926 года пачалося хуткае арганізацыйнае развіццё БСРГ і актывізацыя яе палітычнай дзейнасці. Гэтыя мерапрыемствы з боку КПЗБ спрыялі таму, што беларускія буржуазныя нацыяналісты Астроўскі, Акінчыц, Коўш і іншыя, якія замаскіраваўшыся пралезлі ў БСРГ, у яе кіраўніцтва, і стаўшы за іх плячыма А. Луцкевіч, не змаглі ні звесці яе са шляху рэвалюцыйнай, нацыянальна-вызваленчай барацьбы, ні раскалоць яе, як гэта ўдалося украінскім буржуазным нацыяналістам у адносінах да Сельроба.

Стварэнне і дзейнасць БСРГ былі буйным поспехам КПЗБ і ўсёй КПП у ажыццяўленні свайго кіраўніцтва нацыянальна - вызваленчай барацьбой беларускага народа ў буржуазна - абшарніцкай Польшчы, у міжваенныя гады.



Нядаўна грамадскі супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК ПАРП Аляксандра Бэргман перадала нам невядомы здымак Браніслава Тарашкевіча. Вось ён. Быў у матэрыялах Камінтэрна, якія нядаўна перадаў Польшчы Савецкі Саюз.

## Яшчэ раз апладысменты

**1.**

Аб выдатным беларускім спеваку Міхасю Забэйдзе-Суміцкім «Ніва» пісала неадноўчы. Але многа ў памяці не засталося. Ды ці варта было верыць памяці?

І вось перад канцэртам я ўбачыў яго здымак: малады дабрадушны твар і рукі, вельмі прыгожыя рукі, рукі з пярсцёнкам, рукі «Дамы з ласачкай».

Загараюць юпітэры — і на сцэне паяўляецца сам маэстра. Малады чалавек з фатаграфіі замяняецца ў мужчыну лет пад 60. Але рукі астаюцца тыя ж самыя. За ім выходзіць яго чэшскі акампаніятар. Апладысменты. Першае прывітанне, першыя словы па-беларуску да сваіх слухачоў. І ніякага пазерства.

**2.**

Калі спатыкаецца двух знаёмых, якія да таго даўно не бачыліся з сабою, яны многа чаго маюць сабе расказаць. І гавораць у вельмі шчырай танацыі. Міхась Забэйда-Суміцкі прыехаў у Польшчу пасля 20 гадоў. І, сустрэўшыся з намі, ён расказаў аб сабе, аб сваім жыцці перад усім голасам з італьянскай школы і сваёй натхнёнасцю да беларускага. Ён увесь быў у гэтым.

**3.**

Ёсць пагаворка: няма нічога такога дрэннага, каб на добрае не выйшла. У першую хвіліну слухача паражае адсутнасць канферансье. Клічнікавая прывычка падказвае: Як жа ж так! І раптам перанясенне. З кожным сказаным словам спявак набліжаўся да слухачоў, ён хадзіў па радах, датыкаў амаль кожнага. Сваім словам і па-мастацку. І не думаю, каб мог так умела нявязаць сувязь са слухачамі які-небудзь там канферансье.

**І. ЧЫКВІН**

# ЧУЛАЯ МУДРАСЦЬ УСХОДУ



Аліцыя Марчак-Фаберова, нарадзілася ў Гайнаўцы, зараз салістка Сленскай Оперы.

> Калі любіш плады дрэва, беражы яго кветкі.
> (В'етнамскае прыслоўе)

Клуб Ваяводскай Камісіі прафсаюзаў вядзе вельмі шырокую культурна-асветную дзейнасць. Кіруе ім Леакадзія Зіневіч. У сезоне асенне - зімовым новага 1965/66 года гэты клуб арганізуе рад цікавых мерапрыемстваў, якія пазнаёмяць слухачоў з новымі і цікавымі калектывамі і людзьмі.

Адбудзецца 10 вечароў музычных малых форм. Першы вечар з гэтага цыкла ўжо адбыўся. Быў ён прысвечаны музыцы, песні і паэзіі Усходу. Песні Японіі, В'етнама, Кітая, Індыі, Манголіі, Грузіі спявала на арыгінальнай мове вельмі цікава і добра салістка Сленскай Оперы — Аліцыя Марчак - Фаберова, родам з Гайнаўкі, дзе і зараз жывуць яе бацькі. Аліцыя Марчак мае моцны і чысты мецца-сопрана. Жывое слова Усходу — між іншым творы вялікага паэта Індыі Рабіндраната Тагора — чытала варшаўская актрыса Ганна Станкуўна. На арыгінальных інструментах іграў калектыў Чэслава Квецінскага. Калектыў гэты новы і будзе папулярызаваць усходнюю музыку, песню і слова, якія чаруюць нас сваёй глыбокай мудрасцю, свежасцю і чулліваcцю. (вл)



Адзіны ў Польшчы Арыентальны калектыў Чэслава Квецінскага (першы справа). Пасярэдзіне арфа старынны ўсходні музычны інструмент.

### Ці ведаеш...

...што гадавая падпіска на «Ніву» складае толькі 28 зл. і 80 гр. Неадкладна падпішыся на наш часопіс.

**У Музеі рэвалюцыйнага руху**

## Ленін на паштовых марках

Новая цікавая выстаўка ў Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку: Ленін на паштовых марках. Выстаўка арганізавана супольна з Музеем Леніна ў Кракаве, адкуль пазычана большасць марак. Маркі сабраны з многіх краін Еўропы і Азіі і паказваюць Леніна ад чатырох год (савецкая марка), праз яго вучобу і багатую дзейнасць, увекавечаную Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Ленінскія маркі прыгожыя, каляровыя і разнародныя. (вл)

ЗОРКА
ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 48 (409) 28 лістапада 1965 г.



**ВОСЕНЬ**

Папрацавала дбайна,
Як кажуць,
з агеньком:
Касілкай і камбайнам,
Касою і сярпом...
Па садзе пахадзіла,
Зірнула ў агарод:
Цудоўна ўсё ўрадзіла,
Дабра —
на цэлы год.

ДАНІЛА САСЕЎ

(Працяг са стар. 7)



Як ад сваркі ўратавацца?
Паспрабую лепш схавацца.



— І якая тут прычына,
Што не бачна ў хаце сына?



От сыночак быў бы рад,
Каб убачыў шакалад.



Я парадак наваду,
Памагу сабраць ваду.



Парабіў Пятрок і рад —
Вельмі смачны шакалад!

## А*Д*Г*А*Д*А*Н*К*А

У краўца былі дзве скрыначкі з гузікамі — адна з драўлянымі, другая з касцянымі. Драўляныя і касцяныя гузікі па знешняму выгляду былі зусім аднолькавыя. Выпадкова скрыначкі ўпалі на падлогу, і ўсе гузікі перамяшаліся. Але кравец знайшоў спосаб аддзяліць драўляныя гузікі ад касцяных.

Як ён змог гэта зрабіць?

Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Zorka" BZGraf. C-5






Год назад Сяргейка і не думаў пісаць каму-небудзь пісьмо. Саромеўся займацца гэтым. Яшчэ наробіш памылак, смяяцца будуць.

Неяк Сяргейка ўсё ж напісаў першую ў сваім жыцці дыктоўку без памылак. Гэта яго так узрадавала, што ён у той жа дзень адважыўся напісаць пісьмо бабулі, якая жыла ў вёсцы.

Неўзабаве прыйшоў і адказ ад бабулі. Сяргейка некалькі разоў перачытаў пісьмо, раней чым паказаць яго бацькам. А паказаць трэба было абавязкова, бо там былі словы напісаныя для бацькі і маці.

Сяргейка ўспомніў свайго сябра Петрыка, што жыве ў бабулінай вёсцы. З ім ён улетку хадзіў у ягады і грыбы, лавіў плотак і акунёў.

Сяргейкава перапіска пашыралася, а разам з ёй пашыраўся для хлопчыка свет. Многа цікавага было ў ім!..

І вось аднойчы на адрас іхняй школы прыйшло пісьмо з Чэхаславакіі. Пісьмо пісаў Вацлаў Стромак. Ён ад імя свайго класа прапанаваў пачаць перапіску.

Каму пісаць адказ Вацлаву Стромаку, — аб гэтым не спрачаліся.

— Сяргейка! Хай Сяргейка напіша! — у адзін голас заявілі дзеці.

Пісьмо Сяргейка пісаў два вечары. Здаецца, нічога не прапусціў: і пра свой клас усё расказаў, і запытаў пра ўсё, што можна было прыдумаць.

Другое пісьмо Вацлаву пісалася хутчэй і смялей. А пасля трэцяга ці чацвёртага гэта стала звычайнай справай.

Аднойчы бацька прыйшоў з работы, пераапрануўся, памыўся, паабедаў, сеў на канапу і сказаў:

— Мяне пасылаюць у Чэхаславакію...

— Калі? Надоўга? — захвалявалася Сяргейкава маці. — Расказвай, што і як?

Усё было проста. Максіма Азёрнага з групай інжынераў пасылалі ў братнюю краіну на такія ж, як і іхнія станкабудаўнічыя заводы. Там яны паглядзяць, як працуюць сябры, павучацца, а можа, і самі павучаць іх. Ехаць трэба праз тыдзень.

Пакуль бацька гаварыў пра ўсё гэта, у Сяргейкі выспела адна думка. Яна так захапіла хлопчыка, што расстацца з ёй ён ужо не мог...

Трэба абавязкова пераслаць нейкі падарунак. Лепш, вядома, не куплены, а зроблены самім. Сяргейка яшчэ раней пачаў рабіць шкатулку. За тыдзень можна будзе і скончыць. А каб яна атрымалася прыгожай, тут ужо Сяргейка пастараецца. І Вацлаў, кладучы ў шкатулку пісьмо ад сяброў, не адзін раз успомніць яго добрым словам.

*

Пра сынаву просьбу Максім Азёрны ўспомніў толькі тады, калі трэба было ад'язджаць на радзіму.

Дзверы адчыніла невысокая маладжавая з выгляду жанчына. Яна з ветлівай усмешкай выслухала незнаёмага чалавека, і, амаль нічога не зразумеўшы, сказала:

— Хвілінку.

Выйшаў мужчына. Ён запрасіў нечаканага наведвальніка ў кватэру, пасадзіў на канапу. Дзядзька Максім зноў пачаў тлумачыць, чаго ён сюды прыехаў.



Гаспадар слухаў яго спачатку ўважліва, потым здзіўлена. А яшчэ праз хвіліну ён падхапіўся з месца і радасна ўсклікнуў:

— Максім!

Дзядзька Максім, пачуўшы сваё імя з вуснаў чэха, зусім разгубіўся.

— Вось як давялося сустрэцца! — горача гаварыў гаспадар. — Праз дваццаць год! Проста цяжка паверыць.

Цяпер, добра пачуўшы яго голас, дзядзька Максім пазнаў свайго даўняга сябра.

— Ян! — усклікнуў ён і кінуўся абдымацца.

Забыўшыся пра ўсё на свеце, яны ўспаміналі партызанскія дні. Трывожны гоман беларускіх лясоў, пераходы, баі, радасць перамогі, сум па загінуўшых таварышах — усё, усё прыпомнілася Азёрнаму і Стромаку, якім у тыя дні было толькі па дваццаць гадоў.

— А дзе ж твой Вацлаў? — запытаў дзядзька Максім.

— А вось-вось павінен вярнуцца са школы... Усё ж малайцы нашы сыны. Каб не яны, невядома, калі б мы сустрэліся...

Тым часам прыйшоў Вацлаў. Хлопчык доўга не мог супакоіцца ад нечаканай радасці. Ён не ведаў, як і дзякаваць свайму сябру Сяргейку і яго бацьку.

*

...Міналі дні за днямі.

У той дзень бацька вярнуўся з работы раней часу. Радасна ўзбуджаны, ён хутка пераапрануўся і сказаў Сяргейку:

— Паехалі на вакзал. Атрымаў тэлеграму, трэба сустракаць аднаго чалавека...

Сяргейка пазнаў яго адразу. І ўсё ж такі не мог паверыць гэтаму цуду. Збянтэжаны і разгублены, ён толькі міргаў вачамі, потым машынальна дастаў з нагруднай кішэні пінжака фотакартачку, якую насіў з сабой заўсёды, зірнуў на хлопчыка, на картку і кінуўся да сябра.

Бацька стаяў і ўсміхаўся, назіраючы за сустрэчай.

УЛАДЗІМІР ШАХАВЕЦ



## Паглыбляй свае веды

# СОНЦА ВЫРАБЛЯЕ ЛЁД

Вучоныя ўжо шукаюць спосабу прымусіць дапамагаць чалавеку не толькі ваду, але і паўднёвае сонца. Колькі гарачых праменняў пасылае яно ўсё лета! Ці нельга скарыстаць хоць частку гэтых праменняў для справы?

Аказваецца, можна.

На ўскраіне сталіцы Узбекістана — горада Ташкента — за высокім дашчатым плотам зіхаціць на сонцы вялізнае круглае люстра. Яно такое вялікае, што ўзвышаецца не толькі над плотам, але і над суседнімі дамамі. З выгляду яно падобна на люстраныя адбівальнікі пражэктараў, толькі куды большае.

Гэтае люстра-пастка для сонечных праменняў, пабудаваная работнікамі аднаго з узбекскіх навуковых інстытутаў.

Хто з рабят не выпальваў узораў на дошчачцы, накіроўваючы праз лупу ў пункт сонечныя прамені? Па такому ж прынцыпу зроблена і гэтая ўстаноўка.

Спецыяльны механізм павольна паварочвае велізарнае ўвагнутае люстра так, што яно ўвесь час накіравана на сонца. Мноства сонечных праменняў, адбітых люстрам, збіраюцца ў адным пункце. Тут утвараецца тэмпература ў тры тысячы градусаў.

Пры дапамозе такой установкі можна рэзаць і зварваць сталь без паліва, без электрычнай энергіі.

Устаноўкі меншых памераў могуць грэць ваду ў пральнях і душавых, награваць пліты і кіпяцільнікі ў сталовых.

Але цікавей за ўсё, што гарачае паўднёвае сонца можна прымусіць рабіць лёд.

У інстытуце пабудавалі такі апарат, дзе сонца награвае спецыяльную вадкасць. Выпараючыся, гэтая вадкасць так паніжае тэмпературу навакольнага паветра, што ў апараце ўтвараецца лёд.

Зусім магчыма, што ў портах паўднёвых мораў будуць пабудаваны вялікія склады - халадзільнікі для прадуктаў. А лёд гэтых халадзільнікаў будзе выраблаць гарачае, летняе сонца.

**А. ДОРАХАЎ**





## Для самых маленькіх



# ПЕВЕНЬ

БУДЗІЦЬ ПЕСНЯМІ БЯСКОНЦА
НА СВІТАННІ ПЕВЕНЬ СОНЦА.
І СКАЗАЛА МНЕ НАТАША:
— ОХ, КАБ ПЕЎНЯЎ НЕ БЫЛО,
ТО НІКОЛІ Б СОНЦА НАША
НЕ ЗАХОДЗІЛА Ў СЯЛО.

МІКОЛА ХАМЯНКОЎ





А Пробатаў

# ВЫПАДАК НА ПАЛЯВАННІ

Двух шафёраў — Аляксандра і Барыса, электрыкаў Яўгенія і Пятра Барысавіча зблізіла любоў да прыроды. Яны пасябравалі. Звычайна разам хадзілі на паляванне, а ўзімку вялі падлёдавую лоўлю рыбы на вялікім возеры.

Аднаго разу позняй восенню, калі выпала першая снежная пароша, яны вырашылі папаляваць на дзікоў, якіх у той мясцовасці вялося многа. Атрымаўшы дазвол на адстрэл, яны ўсёй групай скіраваліся ў вялікую паляўнічую гаспадарку.

Доўга блукалі па лесе. Усе чацвёра ішлі ў адным напрамку на невялікай адлегласці адзін ад другога. Але бывае так, што не шанцуе на паляванні. Так здарылася і з нашымі сябрамі. Яны прахадзілі палову дня, і не толькі не сустрэлі дзікоў, але нават іхніх слядоў не ўбачылі.

Нарэшце яны вырашылі падсілкавацца і адпачыць. На адной лясной паляне ўбачылі вялікую капу сена. Падышлі, зручна размясціліся, не спяшаючыся развязалі свае сумкі.

Падсілкаваўшыся, Аляксандр прыдумаў залезці на капу, адтуль кінуцца ўніз і напалохаць сваіх таварышаў. Але не паспеў ён узабрацца на капу, як здарылася нечаканае: сена прыўзнялося, і з-пад яго выскачыў вялікі стары дзік з доўгімі клыкамі. Ён спаў у сене і не чуў, як падышлі людзі. А калі чалавек палез на капу, дзік прачнуўся. Ён рынуўся з-пад сена па раскладзенай ежы, нават зачапіў нагамі паляўнічых. Ад нечаканасці Аляксандр і яго сябры разбегліся хто куды, знік у гушчары і дзік.

Вось так і скончылася паляванне. Сябры доўга нікому не расказвалі пра гэты выпадак, каб не выклікаць кпінаў. Затое калі збіраліся разам, то ўжо не маглі не пасмяяцца ад душы, успамінаючы сваё няўдалае паляванне.



## ЯК МОГ, ТАК І ДАПАМОГ



— Ты, сынок, пабудзь адзін,
Я спяшаю ў магазін.



Быць без працы не магу —
Лепей маме памагу.



Зараз пойдзе ўсё хутчэй
І забаўней і лягчэй.



Чыста ў хаце б так было,
Ды вядро вось падвяло.

(Працяг на стар. 8)

# ЯК ЛЕПШ?

Аднаго знаўцу добрых манер нехта спытаў:

— Як нахіляць глыбокую талерку, калі суп у ёй канчаецца: да сябе ці ад сябе?

— А вы, уласна кажучы, што хочаце абліць? — у сваю чаргу папікавіўся той. — Калі абрус, то нахіляйце ад сябе, а калі ўласныя штаны — да сябе. А наогул лепш за ўсё пакінуць талерку ў спакоі. Гаспадыня даруе вам, калі вы не даясцё паўтары лыжкі супу.

## Пазнаёмімся

Я хачу пазнаёміцца з вучнямі з іншых школ і перапісвацца з імі. МАЦЮКА ЯНКА, Барок, пошта Новаберазова, пав. Гайнаўка.

ШТО НОВАГА Ў ЛІТАРАТУРЫ?

# Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае

Пытанне нацыянальнага і інтэрнацыянальнага даўно зганяе сон з вачэй шматлікім тэарэтыкам і практыкам А што тады гаварыць, калі правяраецца яно на такім далікатным інструменце як культура. Здае нават прафесарская вытрымка. Наглядным доказам — тэмпераментная дыскусія, якая нядаўна прайшла па старонках савецкага літаратурнага друку. З увагі на абмежаванае месца, пастараюся адлюстраваць яе ў мікрамініятурным плане. Для выгады чытачоў і сваёй зраблю гэта ў выглядзе сустрэчы за круглым сталом найбольш характэрных дыскутантаў. Паслухаем.

І. ГРЭКУЛ (малдаўскі крытык): — З набліжэннем савецкіх народаў да камунізма ў культуры іх усё большае месца займаюць супольныя, інтэрнацыянальныя элементы. Такое адзінства ідэйна-мастацкіх прынцыпаў літаратуры і мастацтва **выцясняе** нацыянальнае са сферы як іх зместу, так і формы. Нацыянальнае — толькі дэталь у адзінай інтэрнацыянальнай форме літаратуры і мастацтва: прыказкі, пагаворкі і г.д.

В. ПІСКУНОЎ (рускі крытык): — Нацыянальнае ў мастацтве — не толькі і не столькі прыказкі і пагаворкі, колькі **здольнасць** па-свойму бачыць і разумець свет, мастацкая **самасвядомасць** народа.

Ю. КАРАСЕЎ (рускі крытык): — У развіцці нацыянальных адносін у нашай краіне наступіў новы этап: склалася новая гістарычная супольнасць — **савецкі народ.** Я перш за ўсё **савецкі** чалавек, а потым ужо рускі. Сапраўдны росквіт любой нашай (у тым ліку, зразумела, і рускай) брацкай культуры можа наступіць толькі ў выніку ўзаемаўплыву. Лепшае — аддай. Лепшае — вазьмі. Усе культуры — кожнай! Кожная — усім! Я за росквіт цераз зближэнне.

Б. БУРАК (украінскі крытык): Менавіта з росквітам нацыянальных культур савецкіх народаў умацоўваецца іх адзіная інтэрнацыянальная аснова.

Ю. КАРАСЕВ: — Што крытык падразумявае пад «росквітам»?.. **Агульны** росквіт, найбольш поўнае развіццё нацыянальнай культуры таго ці іншага народа ці росквіт, развіццё толькі **нацыянальнага** ў гэтай культуры?..

Н. ХУДАЙБЕРГАНАЎ (казахскі крытык): — Працэс развіцця інтэрнацыянальнага ў жыцці і культуры савецкіх народаў немагчымы (немыслим) без развіцця, удасканальвання нацыянальных форм, рыс, асаблівасцей.

Ю. КАРАСЕВ: — Якім жа чынам мы прыдзем да агульнай для ўсіх нацый інтэрнацыянальнай культуры, калі будзем захоўваць і развіваць толькі тое, што адрознівае адну культуру ад другой?

Б. БУРАК: — Інтэрнацыянальнае — не безнацыянальнае. Вядомае акрэсленне «сацыялістычная па зместу» не выключае нацыянальнага моманту ў сацыялістычным змесце, бо **матэрыяльная аснова зместа** пераважна нацыянальная.

Ю. КАРАСЕВ: — Але вось, напрыклад, узбецкі пісьменнік стварае раман аб рабочых Бегавацкага металургічнага завода. Іх жыццё і праца напэўна і будзе «матэрыяльнай асновай зместу» рамана?.. Дык чым жа гэта праца на заводзе, які будавала ўся краіна, дзе працуюць прадстаўнікі 37 нацыянальнасцей і дзе амаль палавіна сем'яў — інтэрнацыянальныя — павінна адрознівацца ў «нацыянальным» плане ад працы металургаў іншых савецкіх заводаў?..

В. ПІСКУНОЎ: — Супрацьпастаўленне «нацыянальнага» «інтэрнацыянальнаму» — квадратура кола, пустая метафізічная схема. І пакуль гарызонты спрэчак абмежаваны гэтым супрацьпастаўленнем, уся праўда не будзе давацца ў рукі спрачаючыхся, жывая дыялектыка літаратурнага працэсу па-ранейшаму застанецца за сямі пячаткамі.

На гэтым, можна сказаць, і закончылася дыскусія. Пытанне засталося адкрытым.

**Г. Валкавыцкі**

---

Такім чынам структура гаспадарак у Бельскім павеце, як на ўмовы даваеннай Польшчы, была не найгоршай. Нягледзячы на гэта, як вынікае з аналізаванай працы, Бельскі павет характарызавала беспрацоўе, галеча і недаяданне большае чымсьці ў іншых раёнах Польшчы.

Адной з прычын такога стану была амаль адсутнасць прамысловасці на Бельшчыне і слабасць яе развіцця ў ваяводстве наогул. Так, напрыклад, аўтар падлічвае, што каб уся зямля на Бельшчыне была апрацаванай, на кожнага працуючага ў сельскай гаспадарцы прыпадала 203 дні працы ў год, у той час, калі пры нармальных умовах кожны здольны да працы чалавек павінен працаваць каля 300 дзён. Трэба сказаць, што паказальнік гэты ў параўнанні да іншых раёнаў міжваеннай Польшчы таксама не найгоршы; для цэлай Польшчы складаліся на яго 152 дні, а для паўднёвых ваяводстваў нават 88 дзён. З увагі аднак на тое, што на Бельшчыне амаль адсутнічалі магчымасці несельскагаспадарчага заробтку, каля 1/3 рабочай сілы была нявыкарыстанай

Іншай прычынай вялікай беднасці сялян даваеннай Бельшчыны, якая стаецца відавочнай пры аналізе сабраных Лявіцкім матэрыялаў, з'яўляюцца перажыткі дакапіталістычнай, натуральнай гаспадаркі: трохпольная сістэма апрацоўкі зямлі, дзе 1/3 угоддзяў была неабсеянай, адсутнасць штучных угнаенняў, традыцыйны расліна-збожжавы напрамак гаспадаркі, які даваў параўнальна малы даход.

**УЛ. ПАЎЛЮЧУК**

(Працяг са стар. 1)

ня глебы і «выпісаў» вапну з міхалоўскага ГС-у. Але хто гэта і дзе ён, агранам не ведае. Штосьці падобнае чаўпецца і з насеннеабаротам. Зацікаўленне гадоўляю ялоўскіх кіраўнікоў сельскагаспадарчай прадукцыі зводзіцца да таго, што толькі падпісваюць «умовы» на быкі, кнюры, маркачы. На тысячу жыццездольных гаспадарак запланавана будову дзесяці (!) сіласных ям. Вось ды размах...

У зубкоўскай радзе планавалі больш, бо трыццаць сіласных ям і нават трынаццаць гаспадароў нібы пачалі будаваць іх, узялі цэмент.. але пабудавалі ямы ўсяго пяцёх гаспадароў, (падобнае і ў Гарадку). Зубкоўскі актывіст Кірыл Цішэўскі лічыць, што мала тут праўдзівых гаспадароў, а аб будове сіласаў няма чаго і гаварыць. Думаю, што ён непатрэбна злуецца на мясцовых людзей, бо праўдзівыя гаспадары не падаюць з неба, іх трэба выхаваць, вывучыць на добрых гаспадароў.

## Непаваротлівасць

Хто іх будзе вучыць?

Агранам не аптакар, да яго ніхто сам не пабяжыць, ён павінен адчуваць сябе ў ролі выхавацеля, настаўніка. Ён сам павінен паставіць сабе пытанне і сам дайсці да таго, каб выясніць, чаму, напрыклад, у Свіслачанах не хочуць гаспадары браць рэпрадукцыйнага зерня — кажуць, іх лепшае! Гаварыць, што свіслачанцы цёмныя людзі, нічога не выясняе.

Для справядлівасці варта дадаць, што той жа агранам будзе мець рацыю, калі скажа, што належыцца яму адпаведная падмога. Словы пераконваюць тады, калі ўслед за імі ідзе практыка. Вось, заказалі ў гарадскім ГС-е 18 тон палявой вапны, а ГС хвастом накрыўся. Зубкоўскі заказ бы ў ваду кануў... Вёска Вейкі таксама захацела вапны, але ГС няскоры да абслугі вёсак, яму як бы задалёка. Вядома — куды лягчэй распіхаць гэту вапну на месцы, у Гарадку, хаця ёсць яе больш, чым ахвотных гаспадароў. Тое самае можна сказаць і пра ПОМ. Вацлаў Залеўскі з Вераб'ёў сцвердзіў, што патрэбныя формы для будовы сіласных ям ПОМ даслаў урэшце ў самы разгар жніва, калі няма часу займацца чым другім! ПОМ спяшыць з помачу, як багатаму па смерць...

### ЗВАЛІЦЬ ВІНУ

...на каго другога. Спосаб стары як свет. Праўда, можна змяшаць з граззю агранома, а пацацаць-пагладзіць ГС. Апраўдвацца і валіць віну на другіх заўсёды найлягчэй, але якая карысць з гэтых дыпламатычных апраўданняў, хітрыкаў і балбатні?

Крамавы гандаль у прыялоўскіх вёсках, як кажуць, ляжыць зусім. Вядома, можна зваліць усю віну за гэта на далёкія ГС-ы ў Міхалове і Гарадку, на прэзэса Назарука ці каго іншага. Не дбаюць пра глухія вёскі і кропка!

Аднак жа ці няма сілы прымусіць тыя ГС-ы да большай рухавасці і вёрткасці? Няўжо яны тут паны над панамі? Во, у Гайнаўскім павеце ГС у мястэчку Кляшчэлі моцна не падабаўся гаспадарам навакольных вёсак, якія ніяк не маглі дабіцца штучных угнаенняў і іншых тавараў. Аднак мясцовыя грамадскія рады цвёрдымі гаспадарскімі рукамі ўзяліся ўстанаўляць справядлівасць і, чуваць, што гандлёвыя рэферэнты ў каляровых світэрах паслухаліся, перасталі падстаўляць вуха на ўгаворы камбінатараў. Штучныя ўгнаенні (і вапну таксама) маюць цяпер не толькі кляшчэлеўцы, але і вёскі; маюць столькі, колькі магчыма: усе патроху.

Грамадскія рады маюць даволі правоў, каб адчуць сябе гаспадарамі сваёй аколіцы. Большасць спраў можна не гультаячыся ладзіць, так сказаць, ад рукі і справядліва. А ялоўскі пісар хай не апраўдваецца тым, што не ведае законаў падатковых ці іншых.

Ён не звярнуўся да павятовай рады з просьбаю памагчы яму.

**(СЯ)**



## На практычна-тэхнічных занятках

Практычна - тэхнічныя заняткі ў школах — гэта прадмет, які займае адно з найбольш важных месц у праграме. Асветныя ўлады вядуць намаганні, каб кожная васьмікласная школа мела кабінет і поўнае абсталяванне для гэтых заняткаў. Многія майстэрні пабудавана грамадскім чынам. Аднак большая колькасць школ практычна тэхнічныя заняткі праводзіць у нармальных класах, дзе і змяшчаецца патрэбнае абсталяванне.

На здымку: Вучаніцы сёмага класа пачатковай школы ў Дзянісках пры «чыста мужчынскіх занятках — апрацоўка металаў, работы з дроту».

Тэкст і фота **А. Карпюк**

---

Да людзей добрай волі

## Маці шукае дзяцей

**Вайна, якую гітлераўцы накінулі Савецкаму Саюзу, застала Аляксандру Перавозіну ў мястэчку Цехановец, Сямяцінкага павета. У Перавозінай было двое дзяцей: 7-мігадовы Коля і аднагадовы Валерый. Раніцай 22 чэрвеня 1941 года Перавозінай прышлося эвакуіравацца супольна з лекарам ветэрынарыі Ксеняй Голубевай. Ад'ехаўшы ад Цеханоўца яны прыпомнілі, што ў хаце пакінулі ўсе дакументы. Ксеня Голубева засталася з дзяцьмі і фурманкай, а Перавозіна вярнулася за дакументамі. Калі прыйшла назад, не застала ўжо ані падводы, ані дзяцей, ані Ксені Голубевай там, дзе іх пакінула. Вось так няўдзячны лёс разлучыў маці з дзяцьмі.**

**Пасля вайны ветлекар Ксеня Голубева сказала, што дзяцей Перавозінай пакінула праўдападобна ў вёсцы Баброва ў нейкага грамадзяніна Сідаровіча або Сідарава. Вёска гэтая знаходзіцца паміж шашой Беласток — Валілы, а чыгуначнай дарогай Беласток — Жэдня (за станцыяй Кур'яны).**

**Прайшло ўжо ад гэтага часу 24 гады. Маці аднак усё яшчэ спадзяецца, што яе дзеці недзе жывуць, што імі заапекаваліся добрыя людзі і яны выраслі не ведаючы, што іх маці засталася таксама ў жывых (бацька дзяцей памёр яшчэ ў 1940 годзе).**

**Звяртаемся тады да нашых чытачоў, да ўсіх людзей добрай волі: папытайце суседзяў, сваякоў і знаёмых, можа хто калі-небудзь штосьці чуў пра лёс гэтых дзяцей, можа дзе-небудзь у нейкай вёсцы хто выхоўваў дзяцей, якія адлучыліся ад бацькоў тады ў чэрвеньскія дні 1941 года. Кожная вестка для нас вельмі важная. Давайце супольна дапаможам маці ў яе нястомных пошуках. Лісты можна пісаць на беларускай, рускай і польскай мовах. Высылаць іх на адрас: «Ніва», Беласток, вул. Весялоўскага 1.**

**ВР**

---

## У Вярстку

Вярсток — гэта адна з далёка закінутых вёсак Гайнаўскага павета. Зараз тут перабудавана вуліцу, пабудавана прыгожую краму. Такіх як на здымку кантрастаў у Вярстку вельмі мала. І трэба мець надзею, што ў хуткім часе зусім зніknуць.

Тэкст і фота А. Карпюк



# ТРЫБУНА чытачоў

## Урачыстасць у Ласінцы

З нагоды 48 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Ласінцы (Гайнаўскі павет) адбылася акадэмія. Даклад прачытаў Мікола Беразавец. У мастацкай частцы выступілі вучні пачатковай школы ў Ласінцы. Праграма іх была даволі багатая. Было многа вершаў, песень, гумарэсак і скетчаў Гледачы ўзнагароджвалі самадзейнікаў гарачымі апладысментамі. Вельмі шкада, што нічога не падрыхтаваў ласінскі гурток БГКТ. Дзе ж ён падрыхтуе, калі ўжо год часу нічога аб ім не чуваць. Пасля мастацкай часткі дэманстраваўся савецкі фільм.

Мікола Ялінік
в. Навіны

## Калі закончаць?

**З такім пытаннем звяртаюцца жыхары вёскі Сухавольцы, што ў Гайнаўскім павеце, да пажарніцкай каманды ў Гайнаўцы. Тры гады таму як у Сухавольцах пабудавана раміза. На будову грошы былі, а на выканчэнне не хапае. Жыхары вёскі самі ахвотна закончылі б будову гэтага будынка, але пажарніцкая каманда не дазваляе, бо кажа, што яна пачала і яна кончыць. Цікава, ці доўга яшчэ трэба чакаць?**

Міхась Самасюк
в. Чэхі Арлянскія

## Крушыняны аднаўляюцца

У 1950 годзе вёска Крушыняны на Сакольшчыне была электрыфікаваная, а пазней крыху радыёфікаваная. У 1960 годзе была пабудавана прыгожая школа. Асабліва 1965 год вельмі спрыяльны для нашай вёскі. У гэтым годзе ў Крушыняны праведзена лінія ПКС. Коштам 87 тысяч злотых пабудавана супроцьпажарны басейн, артэзіянскі калодзеж, адкрыта клуб-кавярню, будуецца злеўня малака і распачынаецца пабудова стражацкай рамізы.

Крушыняны прыгажэюць.

К. П.
Крушыняны

## Вапнаванне глебы

Сяляне Сакольшчыны пераканаліся ўжо, што іх палі моцна заквашаныя, што яны патрабуюць вапны і таму з кожным годам усё больш і больш купляюць яе ў магазінах ГС-у. І так, напрыклад, Леанід Шчэнсновіч з вёскі Шчэнсновічы (грамада Бабікі) у бягучым годзе закупіў аж 7 тон вапны.

Пасля вапнавання асабліва вялікія ўраджаі ў гэтым раёне дае канюшына (клевер).

А. С.
Сакольскі павет

## Сардэчныя тайны

Дарагое **Сэрцайка!**

Наша вёска знаходзіцца непадалёк Белавежскай пушчы. Бацькі мае маюць вельмі малую гаспадарку, але бацька зарабляе на рабоце ў горадзе, бо з гаспадаркі было б нам цяжка жыць. Я найстарэйшая, апрача мяне яшчэ 3-е дзяцей. Маю 19 год, і замуж яшчэ б і не думала, калі б не маці. Вось мой сваяк з суседняй вёскі пазнаёміў мяне са сваім аднавяскоўцам. Але мне ён зусім не падабаўся ад першага нашага спаткання. А цяпер я яго проста ненавіджу. Нянавісць гэта пачалася, калі ён сам убачыў, што ён мне не падабаецца, аднак прыязджае да маіх бацькоў і нагаварвае, каб яны аддалі мяне за яго замуж. Праўда, я яму ў вочы не сказала, што не хачу выходзіць за яго замуж, але ж ён убачыў гэта па маіх паводзінах. Бацькам напэўна таксама не вельмі спадабаўся, але ён багаты, мае многа зямлі, мае гаспадарчыя машыны (так казаў наш сваяк і ён сам). І таму бацькі мае, а перад усім мама, прымушаюць, каб я выходзіла за яго замуж і то ў гэтых мясніцах. Мама тлумачыць, што калі буду мець усяго пад дастаткам, не будзе нястачы, дык і мужа пакахаю за гэта. Але я не згаджаюся, мне здаецца, я не буду магла з ім жыць ніводнага дня. Не веру ў слушнасць маміных слоў. І замуж яшчэ не хацела б выходзіць. Я ж яшчэ маладая. Хацелася б пагуляць. Але калі толькі пачнем з маці гаварыць аб Васілю (так называецца гэты хлопец), дык пачынаецца сварка і то вялікая сварка. Таму я маўчу, стараюся маўчаць, а Васіль усё ездзіць і ездзіць да нас і больш супольнага мае з маімі бацькамі, як са мною. Парай, Сэрцайка, што мне рабіць? Сапраўды, як надумаюся, аж галава баліць. Чакаю парады.

**Оля**
з Гайнаўшчыны

Дарагая Оля!

Я таксама думаю, што табе зарана выходзіць замуж, тым больш за хлопца, якога ненавідзіш. Маці твая не мае рацыі. Аднак не павінна ты, Оля, на яе крыўдаваць, бо ж яна не хоча нічога злога для свае дачкі, як кожная маці, а хоча, каб было як найлепш. Яна і сама не ведае, што дрэнна думае, што не тыя ўжо часы. Гэта было добрае ў гадах яе маладосці, але не цяпер. Бо ж багацце — гэта рэч нажытая, абы толькі здароўе і ахвота да працы. Мая рада такая: ты павінна перш за ўсё сказаць Васілю пры сваіх бацьках, што ты яшчэ замуж не думаеш выходзіць і не выйдзеш, хоць прымушаюць цябе бацькі. Па-другое, пагавары спакойна з маці і вытлумач ёй, што часы ўжо змяніліся і яе «рацыя» даўно ўжо перастала быць рацыяй. На гэта можаш прывесці мац мноства прыкладаў.

Жадаю ўсяго добрага
**Сэрцайка**

## Konkurs „NIWY"

**Warunkiem uczestniczenia w konkursie i zakwalifikowania się do udziału w przyznaniu nagród jest zdobycie każdej następnej rocznej prenumeraty tyg. „Niwy" od stanu posiadanego przez daną placówkę na dzień 1.X.1965 r.**

**Do ubiegania się o nagrodę będą mieli prawo uczestnicy konkursu. którzy nadeślą do organizatorów konkursu tj. Redakcji tyg. „Niwa" lub Przedsiębiorstwa Upowszechniania Prasy i Książki „Ruch" do dnia 30 grudnia br. kartę uczestnictwa wg. załączonego wzoru — potwierdzoną przez upt. lub kierownika Oddziału (Delegatury) „Ruch".**

**Pierwsze 3 nagrody zostaną przyznane tym uczestnikom konkursu, którzy zdobędą co najmniej 50 nowych rocznych prenumeratorów. Wszyscy pozostali uczestnicy konkursu wezmą udział w losowaniu 10 cennych nagród rzeczowych.**

**Organizatorzy ustalają następujące nagrody:**

**I — 1000 zł**
**II — 800 „**
**III — 600 „**

**Ponadto ustala się 10 nagród do rozlosowania w wysokości od 150 do 350 zł.**

**KARTA UCZESTNICTWA**

**w konkursie na roczną prenumeratę tyg. „Niwa"**

Imię i nazwisko ..........................................

Rodzaj pracy: doręczyciel, prac. poczt., prac. „Ruchu", Urząd. PT (Oddz.-Deleg. „Ruch" (niepotrzebne skreślić)

w .............................. pow. ..............................

Zawiadamiam, że w okresie do dnia 15.XII.1965 r. zjednałem następującą ilość rocznych prenumeratorów na 1966 r.

..........................................

Stan prenumeraty na terenie mojego działania wynosił w dniu 1.X.1965 r. .............................. egz.

(podpis uczestnika)

Potwierdza się, że powyższe dane zgodne są z rzeczywistością i zostały przyjęte do realizacji.

.............................. dnia ..............................

podpis i pieczęć OUPiT(upt) lub kierownika Oddz. (Deleg.) „Ruch"

---

Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку падае да ведама, што 30 лістапада г.г. у 10 гадзін у памяшканні Таварыства адбудуцца другія таргі самахода маркі «Варшава М—20» Вывалаўчая цана 15 000 злотых. Засцерагаецца выбар аферэнта. Вадыюм 10% цаны трэба ўплаціць у касу ГП БГКТ. Самаход можна аглядаць кожны дзень ад $8^{00}$ да $13^{00}$ гадзіны.




**Праграма**
**на 30.XI.—5 .XII.1965 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Gorączka w El Pao" (franc.), 30.XI.—1.XII. „Gdzie jest twoje miejsce" (pol.), 2.—3.XII. „Elektra" (grecki), 4.—5.XII.

**Кляшчэлі**

„Śmierć Tarżana" (czeski), 30.XI.—1.XII. „Irena do domu" (polski), 2.—3.XII. „Ostatni lot" (radz.), 4.—5.XII.

**Дубіны**

„Kapo" (włoski), 4.—5.XII.

**Нарва**

„Mrok za dnia" (węgierski), 1.—5.XII.

**Нараўка**

„Czarci żleb" (polski), 1.—5.XII.

**Чыжы**

„Bokser i śmierć" (czeski), 1.—5.XII.

**Дубічы Царкоўныя**

„Życie raz jeszcze" (polski), 1.—5.XII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Spotkanie ze szpiegiem" (polski), 1.—5.XII.

**Орля**

„Zakazane piosenki" (polski), 1.—5.XII.

**Райск**

„Biedni bogacze" (węgierski), 1.—5.XII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Cena odwagi" (bułg.), 30.XI.—2.XII. „Noc przedślubna" (czeski), 3.—5.XII.

**Міхалова**

„Liga dżentelmenów" (angl.), 30.XI.—1.XII. „Umrzeć w Madrycie" (franc.), 2.—3.XII. „Urocza gospodyni" (USA), 4.—5.XII.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Liga dżentelmenów" (angl.), 30.XI.—1.XII. „Noc szpiegów" (franc.), 2.—3.XII. „Czapajew" (radz.), 4.—5.XII.

**Мілейчыцы**

„Judex albo zbrodnia ukarana" (franc.), 30.XI.—1.XII. „Wir" (węgierski), 2.—3.XII. „Pingwin" (polski), 4.—5.XII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Powodzenia chłopcze" (jugosłowiański), 30.XI.—1.XII. „Obca krew" (radz.), 2.—3.XII. „Gorąca linia" (polski), 4.—5.XII.

**Шудзялава**

„Głos ma prokurator" (polski), 4.—5.XII.

**Сідра**

„Przeżyjemy to jeszcze raz" (radz.), 30.XI.—1.XII. „Królewna i rybak" (czeski), 2.—3.XII. „Skowronek" (węgierski), 4.—5.XII.

**Сухаволя**

„Człowiek, który wątpi" (radziecki), 30.XI.—1.XII. „Znowu Max Linder" (franc.), 2.—3.XII. „Czapajew" (radz.), 4.—5.XII.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Czterdziesci minut przed świtem" (radz.), 4.—5.XII.

**Ліпск**

„Beata" (polski), 4.—5.XII.

---

**Калі за ёй зачыняюцца дзверы, нейкі час мы знаходзімся ва ўзбуджанай разгубленасці. Не адна маці пазайздросціла б тым стрункам, якія закранула ў кожным з нас гэтая жанчына. Хлопцы ўздыхаюць.**

**— Што перадала? — звяртаецца да мяне Скарыпін.**

**Каб хутчэй вывесці сябе з непрывычнага стану, з перабольшанай цікаўнасцю кідаюцца да мяне і астатнія:**

**— Ану, паказвай! Бадзяга!**

**Я і сам не ведаю, што. Нават баюся кранаць паперу.**

**— Глядзіце сабе...**

**Разгортваюць. У сярэдзіне пакеціка — кароценькі кавалачак тэлеграфнай істужкі, на ёй вялікімі літарамі старанна выведзена: «Лёша, вас хочуць забіць. Асцерагайцеся, прашу!»**

**— То чаму сама не сказала, калі была тут?**

**— Ачмурэў? Гэта не яе запіска!**

**— У Марусі почырк, што ў курыцы, — няроўны, нязграбны, ведаю яго!**

**— Тады хто пісаў?**

**— Хто, хто, не ясна табе яшчэ?**

**— Ну-у-у? О-го-о!**

**— Фі-іў!**

**Глядзяць на мяне, нібы першы раз убачылі.**

**Уваходзіць Табуноў, аб'яўляе:**

**— Слухайце апошнія навіны! Петрасянаўцы збіраюцца, калі пачнём выходзіць з лагера, адбіць Аляксея. Там цяпер Мікалай Калістратавіч адзін змагаецца з камбрыгам іхнім, як зубр, от рэжа!**

**— Вайцяхоўскі можа!**

143

**— Гэты дасць!**

**— Пайшлі выручаць!**

**Тут уваходзіць сам камбрыг. Сабраны, сур'ёзны.**

**— Камандзіраў атрадаў, старшын, камузводаў ка мне! — загадвае. — Будзем складаць маршрут на заўтра. Астатнія бібікі не біць, а запасацца на дарогу харчам. Жыва!**

**Толькі цяпер бачыць мяне, запінаецца, думае.**

**— Скарыпін, знойдзеш у сябе шэсць аўтаматчыкаў?**

**— Знайду, таварыш капітан!**

**— Тады забірай Аляксея і адпраўляйся з лагера зараз жа!**

**— Слухаю!**

**— Прабірайся кустамі, ельнікам, каб ніхто не бачыў.**

**— Будзе выканана!**

**— Дойдзеш да развілкі на Ружанскай шашы, чакай. Туды вернецца наш атрад з засады, разам перадневеце. Усё зразумела?**

**— Усё, таварыш капітан!**

**— Адпраўляйцеся!**

**— Слухаю! Цёзка, забірай торбу!**

**Бліжэйшыя хлопцы раяць мне:**

**— Будзеш ісці паўз іхнія зямлянкі, памахай Чыгрову рукой!**

**А мне раптам робіцца шкада Гута-Міхалівы. Ды так, што не хочацца яе пакідаць.**

**(Працяг будзе)**

144

## Нішчаць лес

На ўсход ад вёскі Плёскі знаходзіцца лес гаспадароў. Сяляне навакольных вёсак: Канюк, Зубава і Рыбал нішчаць наш лес нягледзячы на тое, што гаспадары Плёсак плацяць за яго падатак. Ды яшчэ выбіраюць яны дрэвы найпрасцейшыя і без сучкоў, бо сукастыя ім цяжка калоць. На зіму кожны падрыхтаваў запас паліва коштам нашага лесу.

А шкада, што гэтай справай ніхто сур'ёзна не зоймецца.

**Янка**
Плёскі

## Мікалай Юрчук

Мікалай Юрчук працуе пісьманосцам на пошце ў Дубінах, Гайнаўскага павета. Да яго раёну належаць навакольныя вёскі, а таксама і вёска Ліпіны.

М. Юрчука ўсе паважаюць. Гэта жыццёвы чалавек. Ён заўсёды вясёлы, любіць пажартаваць. Да людзей адносіцца вельмі ветліва і за тое яго ўсе любяць.

**М. Петручук**
Ліпіны

**Hiвa**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie —14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458 Bltk C-3.




# БЫЧКІ

Сустрэўшы на вуліцы Кастуся, Мірон уцешыўся:

— Даўно не бачыліся, дзе ты прападаў?

— Му...

— Не разумею, паўтары.

— Му-у-у, — замычаў Кастусь.

— Ага, значыць, ты быў на курсе англійскай мовы!

Кастусь закруціў галавою засоп і пачаў грабсці нагамі.

— Чаго мы стаімо на вуліцы, зойдзем у гасподу, горла прамочым, — сказаў Мірон.

У гасподзе Мірон спачувальна паглядзеў на Кастуся і сказаў:

— Пакольні знаюся на сельскай гаспадарцы дык ты, брат, прыхварэў галавою...

— Сам ты галава-булава, я цяпер на пасадзе грамадскага быка, — нарэшце выясніў Кастусь.

Углядаючыся ў Кастуся Мірон запрапанаваў:

— Вып'ем піва і пойдзем да доктара, яму будзе прыемна пагутарыць з табою.

— Пайду дахаты. З жонкаю не бачыўся, доўга быў на курсе пра быкоў...

— Што з табою, Кастусь. Гаворыш неяк дзіўна.

— Не разумееш мяне, Мірон. Быкоў цяпер звальняюць, бо карысць з іх як з казла малака. А я буду шкляным быком, з шпрыцоўкай буду хадзіць.

— Маю да цябе просьбу, Кастусёк-бычок: змайструй мне такую кароўку, каб давала малако як смятана, га!?

— Смятана як масла, а масла як маргарына, — дакончыў Кастусь.

— Я ўсур'ёз прашу цябе, а ты жартуеш. — заславаў Мірон. — Ну, а калі замест кароўкі выйдзе бычок, таксама добра будзе...

— Возьмем бычка на пераробку, — важна сказаў Кастусь.

— Значыць, пераробіш яго на кароўку?

— Чаму на кароўку? — здзівіўся Кастусь. — Пераробім яго на кансервы, напрыклад, «бычкі ў аліве».

— Так, але гэта рыбныя кансервы, — запярэчыў Мірон.

— А цяпер будуць бычыныя! — выясніў Кастусь.

У гасподзе раптам хтосьці заенчыў на ўвесь голас:

— Кастусь!!! Твой бык сарваўся з ланцуга!!

Кастуся як бы не было ў гасподзе, толькі пяткамі заблiскаў у дзвярах.

— Будзе паддынак двух быкоў, — сказаў Мірон і заказаў сабе другі куфаль піва.

*Дзядзька Лявон*

### ВІНАВАТЫ

Суддзя да абвінавачанага: — Як ты пасмеў забрацца ў чужую кватэру ноччу?

Абвінавачаны: — Пане суддзя, калі мяне судзілі мінулым разам, вы сказалі: «Як ты пасмеў забрацца ў чужую кватэру сярод белага дня!» Вытлумачце, калі ласка, калі ж мне працаваць?

### ВІНШАВАННЕ

— Дзе ты быў?

— Здаваў экзамен.

— З чым павіншаваць?

— З прыездам...

### ЗДАГАДАЛІСЯ

Два міліцыянеры падышлі да маладога чалавека, які вельмі моцна сварыўся з бабулькаю.

— Як вам не сорамна так сябе паводзіць? — спыталіся яны.

— А вам якая да гэтага справа?.. Гэта ж мая цешча...

— А-а-а... Ну, тады прабачце, — вінавата адказалі міліцыянеры і пайшлі далей.

# СТАРОЕ ПА-НОВАМУ

Прыказку-дурніцу
Чуў такую калісь:
«П'яніца праспіцца,
А дурны ніколі».

*

З прыказкаю тою
Не магу згадзіцца,
Бо ў жыцці — другое:
П'яніца праспіцца,
Каб ізноў напіцца.

*

Як стаў Амелька піць,
Адкуль такое ліха —
У галаве шуміць-шуміць,
А ў кішэнях ціха-ціха.

*

Не вер таму, братка,
Хто хваліцца ў вочы...
Часамі чубатка
Дарэмна сакоча.

**Міхась Скрыпка**

### ТУТ ЖА БЛІЗКА...

— Шафёр, калі ласка, падвязіце мяне.

— Я разабраў матор.

— Падвязіце без матора, тут блізка.







Без слоў.

Смяёмся самі

У дакладзе было многа вады. У ёй патанула і тое добрае, што меўся сказаць дакладчык.

### ЗМЯНІЎ АДРАС

— Ты ведаеш загадчыка базы Карповіча, што жыў насупраць турмы?

— Ведаю, а што?

— Ён перасяліўся і жыве цяпер насупраць свайго дома.

### У ЦЫРУЛЬНІ

Хлапчанё гадоў пяці гаворыць цырульніку, які голіць мужчыну:

— І мяне памажаце смятанай, як таго дзядзьку.

### ВЫХАВАЎ

— Тата, тата!..

— Сынок, мы дамовіліся: калі ем — глух і нем.

Пасля абеду бацька пытае:

— Дык што ж ты хацеў сказаць, сынок?

— Позна ўжо. У капусце была муха, і ты яе з'еў.



Прэм'ер Паўднёвага В'етнама Нгуэн Као Кі ў інтэрв'ю англійскай газеце «Сандзі мірор» заявіў: «Людзі пытаюць у мяне, хто мае героі. У мяне толькі адзін герой — Гітлер. Я захапляюся Гітлерам».

ГІТЛЕР і КІ-тлер...

Малюнак Кукрыніксы




Добрыя словы — залатыя зёрны, дрэнныя — калючы асот.

Справядлівасць натхнёная шчырым і добрым словам.

Прыгожыя ўзоры вельмі цяжка ўзнавіць.

Культура залежна не толькі ад грамадства.

На злучэннях найчасцей бываюць прарывы.

# УСЯЧЫНА



А нам ўсё роўна...

Кур'ёзы

### СУПЕРСУЧАСНЫ БУДЗІЛЬНІК

Адзін італьянскі вынаходца распрацаваў новую цікавую канструкцыю будзільніка: спачатку ён звоніць, як і звычайны, але калі вы не ўстаеце, сігналіць, як аўтамабіль, брэша, як сабака, страляе і, урэшце, выдае гук, які нагадвае выбух гранаты.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Ніны Юзвюк** з Бельска і **Станіслава Дамброўскага** з Бялявіч, Беластоцкага павета, змяшчаем польскую песню

## KOCI TWIST

*Muzyka: Piotr Marczewski. Słowa: Wiesław Machejko*

I-dę u-li-cą mó-wią kot, le-żę na pla-ży mó-wią kot;
gdy tań-czę z tobą szep-cą kot jak spojrzę w oczy mó-wią kot
Zie-lo-ne o-czy mam jak kot, po nocach błąkam się jak kot
na księżyc ga-pię się jak kot i tęsknię, wzdycham tak jak kot
REFREN
Gdy ci kot przebiegnie drogę nie mów że to pech
kot ci szczęście przyniesie mo-że jeśli tylko chce. Kot ci szczęście
przynieść mo-że, jeśli tylko chce
chce, jeśli tylko chce, jeśli tylko chce – – – –.

I.

*Idę ulicą mówią kot,*
*Leżę na plaży mówią kot,*
*Gdy tańczę z tobą szepcą kot.*
*Jak spojrzę w oczy mówią kot.*
*Zielone oczy mam jak kot,*
*Po nocach błąkam się jak kot,*
*Na księżyc gapię się jak kot,*
*I tęsknię, wzdycham tak jak kot.*

*Gdy ci kot przebiegnie drogę*
*Nie mów, że to pech,*
*Kot ci szczęście przynieść może,*
*Jeśli tylko chce.*
*Kot ci szczęście przynieść może,*
*Jeśli tylko chce.*

II.

*Chodziłeś za mną, tak jak kot,*
*Przez płot skakałeś, tak jak kot,*
*Łasić lubiłeś się, jak kot,*
*Słodko mruczałeś, tak jak kot.*
*Fałszywy byłeś, tak jak kot,*
*Bawiłeś się, jak z myszką kot,*
*Odszedłeś nocą, tak jak kot,*
*Idź własną drogą, tak jak kot.*

*Gdy ci kot.... itd.*

III.

*Jestem pogodna, tak jak kot,*
*Jestem łagodna, tak jak kot,*
*Jestem leniwa, tak jak kot,*
*I jestem mściwa, tak jak kot.*
*Pójdę za tobą, tak jak kot,*
*Trop w trop za tobą, tak jak kot*
*Zobaczę, kto mi zabrał cię*
*I nic nie powiem, nie, nie, nie.*

*Gdy ci kot.... itd.*